# СЛОНІМСКІ КРАЙ

№ 4, травень 2016

Краязнаўчы бюлетэнь



## Слонім на старонках нямецкай газеты 1916-1918 гадоў




*Панарама Слоніма. Малюнак Вальтэра Фэста, 1917 год*

Падчас Першай сусветнай вайны ў Баранавічах выдавалася нямецкая газета, якая пісала і пра Слонімшчыну. На працягу 1916 года яна называлася "Deutsche Kriegszeitung von Baranowitschi" ("Нямецкая ваенная газета ў Баранавічах"), а з пачатку 1917-га — "Kriegszeitung von Baranowitschi" ("Ваенная газета ў Баранавічах"). Да сакавіка 1918 года выйшлі 232 нумары. Усе яны аўтарам гэтых радкоў былі прагледжаныя. У трох дзясятках нумароў былі зацемкі, фотаздымкі ці малюнкі, прысвечаныя Слоніму.

Першым гэтай тэмай зацікавіўся наш зямляк, літаратуразнаўца і перакладчык Уладзімір Сакалоўскі (1930 — 2013). На жаль, ён не зрабіў адмысловай публікацыі, але распавёў пра змест згаданых публікацый, прысвечаных Слоніму, у адным з інтэрв'ю.* Мы ж падрабязна пазнаёміліся з дзясяткамі гэтых зацемак і артыкулаў, выявілі ўсе "слонімскія" ілюстрацыі.

*Працяг на ст. 6*

## У Слоніме зніклі "Мадэрн" і "Мір"

У сакавіку 2016 года ў Слоніме закрылі апошні савецкі кінатэатр — "Мір". Ён урачыста быў адкрыты на кастрычніцкія святы 1959 года. Пасля Другой сусветнай вайны, яшчэ да кінатэатра "Мір", у нашым горадзе дзейнічалі два кінатэатры — "17 верасня" і "Зара". Першы месціўся на вуліцы Пушкіна ў будынку сённяшняй падатковай інспекцыі, а другі — у пачатку вуліцы Мінскі тракт. Кіно ў Слоніме паказвалі яшчэ ў клубе газаправода на Брэсцкай вуліцы ў клубе ў Альбярціне.

*Працяг на ст. 2*



*Так выглядаў кінатэатр "Мір" у Слоніме на пачатку 1960-х гадоў*




*Віктар Шчарбакоў каля кінатэатра “Мір”, 1960 год*

Па словах былога дырэктара гарадскіх кінатэатраў Слоніма Віктара Шчарбакова, які значную частку жыцця адпрацаваў на ніве слонімскага кіно, у 1950-я — 1980-я гады ўсе кінатэатры горада выконвалі планы па наведванню гледачамі.

“Людзі вельмі актыўна і з радасцю хадзілі ў кіно. Напрыклад, кінатэатр “Мір” 6 разоў на дзень паказваў фільмы. Першы сеанс быў у 10 гадзін, апошні — у 21 гадзіну. А калі не хапала калькасці наведвання кінатэатраў гледачамі да месячнага плана, то прывозілі які-небудзь індыйскі фільм, і тады залы слонімскіх кінатэатраў былі поўныя, бо людзі ў савецкі час вельмі любілі індыйскія фільмы. Даволі часта слонімскія кінатэатры паказвалі і праводзілі розныя кіналекторыі для школьнікаў і настаўнікаў, дапаўняючы іх спецыяльнымі дакументальнымі і мастацкімі фільмамі. І ўсе з вялікай ахвотай наведвалі падобныя мерапрыемствы”, — успамінае Віктар Шчарбакоў.

У 1980-я гады пры кінатэатры “Мір” існаваў кінаклуб “Прамень”, які аб’ядноўваў аматараў праблемных фільмаў. Яго задача была — паказаць гледачам творы вядучых майстроў савецкага кіно, якія адрозніваліся не весялосцю і камедыйнасцю, а глыбінёй і сур’ёзнасцю жыццёвых праблемаў, і якія патрабавалі абмеркаванняў і разваг. Перад кінасеансамі ў кінатэатры выступалі кіназнаўцы, а асобныя фільмы абмяркоўваліся з мэтай больш глыбокага разумення іх па форме і змесце. Спецыяльна для сяброў кінаклуба “Прамень” у слонімскай друкарні выпускаліся абанементы, у якіх былі надрукаваныя тэмы і фільмы на некалькі месяцаў наперад.

Выпускала адміністрацыя кінатэатра “Мір” і праграмкі кіналекторыяў на самыя розныя тэмы. Напрыклад, “Салют, піянерыя!”, “Закон і ты” і г. д.

Як прыгадвае Віктар Шчарбакоў, у кінатэатры “Мір” працавалі вельмі таленавітыя мастакі, якія афармлялі рэкламныя стэнды на фільмы. Гэтыя стэнды з малюнкамі і назвамі фільмаў вывешваліся каля ўсіх кінатэатраў горада. Вельмі прыгожа і па-мастацку прафесійна працаваў мастак Генадзь Зайцаў. Яму дапамагаў Канстанцін Бармашоў-Аляксееў.

Слонімскіх кінатэатраў “17 верасня” і “Зара” даўно ўжо ў горадзе над Шчарай няма. Знік непрыкметна і клуб газаправода. У ім цяпер адкрыта крама. Дайшла чарга і да кінатэатра “Мір”, які таксама развітаўся са сваімі гледачамі. Кіно 2D і 3D слонімцы цяпер могуць паглядзець у Цэнтры культуры на Чырвонаармейскай вуліцы.

Да ўсяго сказанага вышэй хочацца яшчэ дадаць, што ў 1920-1930-х гадах у Слоніме былі прыватныя кінатэатры “Мадэрн” Юзафа Ельяна (на цяперашняй Першамайскай вуліцы) і “Вясёлка” (на плошчы Сапегі). Яны карысталіся ў слонімцаў, якія мелі грошы, каб іх наведваць, вялікай папулярнасцю. Дэманстраваліся пераважна замежныя фільмы, у тым ліку і амерыканскія. Гэтыя кінатэатры праіснавалі да верасня 1939 года.

**Сяргей Чыгрын**

## Знойдзены рукапісы паэта Язэпа Вількоўшчыка



Падчас падрыхтоўкі да друку творчай спадчыны слонімскага паэта Язэпа Вількоўшчыка* (Іосіфа Вількоўскага, 1898 — 1984) мы з Сяргеем Чыгрыном не знайшлі яго рукапісаў. Архіў паэта пасля яго смерці найхутчэй быў страчаны. Аднак была надзея, што лісты, рукапісы твораў захаваліся паза Слонімам, і яна спраўдзілася. У архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі аўтар гэтых радкоў адшукаў два аркушы паперы з тэкстамі Вількоўшчыка. Гэта “чыставікі” байкі “Вол і Паршук” і верша “Васеньні настрой”, напісаныя беларускай лацінкай. Творы вядомыя, друкаваліся ў віленскім часопісе “Шлях моладзі” ў 1934 годзе.

Але як яны трапілі ў Мінск? Рукапісы знаходзяцца ў архіўным фондзе яшчэ аднаго слонімскага паэта Сяргея Новіка-Пеюна, які сабраў і захаваў нямала цікавых дакументаў. На жаль, ён не пакінуў тлумачэнняў пра паходжанне двух аркушоў. Яны, дарэчы, спачатку былі падшытыя ў нейкую справу і адтуль іх дасталі (папера — рэдкая, яна мае вялікія вадзяныя знакі). Магчыма, што сам Вількоўскі акуратна падшываў свае рукапісы. На адным з іх ён зрабіў пазнаку, дзе і калі быў апублікаваны гэты твор.

Да рукапісаў Новік-Пяюн прыклаў машынапіс, у якім дзесьці ў 1980-я гады перадрукаваў згаданыя байку і верш, але ўжо кірыліцай. Магчыма, ён рыхтаваў публікацыю пра Язэпа Вількоўшчыка і намагаўся сабраць пра яго інфармацыю.

**Сяргей Ёрш**

*Язэп Вількоўшчык. Прыкрыты сэрца боль: з літаратурнай спадчыны. — Мінск: Кнігазбор, 2015.

# Слонімскае княства і яго князі

*Слонімскае княства паўстае з туману вякоў у XIII-XIV стагоддзях, калі сярод яго князёў засвяціліся імёны Войшалка, Рамана, Васількі і Манвіда. Гэта не значыць, што іншых не было, проста пакуль мутная вада гісторыі не дазваляе нам іх убачыць.*

**Ля вытокаў Вялікага княства Літоўскага**

У сярэдзіне XIII ст. страла гісторыі накіроўвае сваё вастрыё на ўскраіну былой Кіеўскай Русі, Панёманне, дзе, быццам каралі, раскінуліся гарады Чорнай Русі — Горадня, Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў і Навагрaдак, якім было наканавана стаць ядром адной з магутнейшых еўрапейскіх дзяржаў. Рэгіён становіцца аб'ектам актыўнага гандлю на пачатку 1240-х гадоў, калі сюды пераяшчаюцца гандлёвыя шляхі з поўдня пасля спусташэння мангола-татарамі Паўднёвай Русі, Венгрыі і Польшчы. Кантактная зона балтаў і славян з'яўлялася сферай уплыву Галіцка-Валынскага княства, аднак, у сувязі з немагчымасцю апошняга спыніць ардынскае нашэсце, кіруючая эліта гарадоў рэгіёна (баярства) паўстала перад праблемай абароны падкантрольных тэрыторый.

Праваднікам гэтай ідэі выступіў самы багаты горад Панёмання — Навагрaдак, баярства якога для павелічэння ваеннай магутнасці края запрасіла на княскі пасаг Міндоўга, аднаго з мацнейшых уладароў Літоўскай зямлі, размешчанай у сярэднім цячэнні Віліі. Такога кшталту "прызванне" было характэрнай з'явай для Русі яшчэ з часоў Рурыка. Толькі калі ў IX-X стст. баярства запрашала нарманаў, то ў XIII стагоддзі князёў запрашаюць з ліку балцкіх ваенных правадыроў (Таўцівіла — у Полацк, Даўмонта — у Пскоў).

**Даніл Раманавіч**

Ініцыятыву Навагрaдка падтрымалі і іншыя гарады-дзяржавы Чорнай Русі, незацікаўленыя ў перакачванні рэсурсаў са сваіх княстваў у распараджэнне Галіцка-Валынскага. Князі апошняга Даніл (1201 — 1264) і Васілька (1203 — 1269) Раманавічы не жадалі страты перспектыўных тэрыторый і адчувалі небяспеку з боку маладога альянса, што мог пераўтварыцца ў моцную дзяржаву, акумулюючы энергію балта-славянскіх кантактаў і выкарыстоўваючы выгаднае геаграфічнае размяшчэнне. Сутыкненне выспявала і вылілася ў шэраг спусташальных ваенных паходаў, у агні якіх замацаваўся саюз Чорнай Русі з Літоўскай зямлёй і ўзнікла новая дзяржава — Вялікае княства, якое апіралася на гарады-дзяржавы, цэнтры рэгіянальных княстваў, сярод якіх было і Слонімскае.



**Барацьба з Галіцка-Валынскім княствам**

Супраць ВКЛ Раманавічы арганізавалі ваенную кааліцыю, у якую ўвайшлі польскія князі (аднак тыя не прыслалі войска), падкупленыя "срэбрам і многімі дарамі" яцвягі, палова жмудзі, а таксама Лівонскі ордэн — усе суседзі, акрамя Полацкага княства. У 1249/1250 гадах адбываецца паход, пра які захаваўся наступны запіс у Іпацьеўскім летапісе: "Данилъ же и Василько, братъ его, розгадавъ со сыномъ, брата си посла на Волковыескь, а сына на Услонимъ, а самъ иде ко Здитову. И поимаша грады многы и звратишася в домы".

Галоўнай мэтаю пахода было авалоданне Навагрaдкам. Але напачатку Раманавічы вырашылі нанесці ўдар па яго саюзніках — гарадах-дзяржавах Чорнай Русі, якія знаходзіліся паміж крайнімі кропкамі маладога альянсу — Горадняй і Навагрaдкам.

Пасля нарады войскі былі падзелены на тры часткі: Даніл павінен быў захапіць Здзітаў, у той жа час яго сын Раман — авалодаць Слонімам, а брат Васілька — падпарадкаваць Ваўкавыск. Аднак планы былі разбітыя аб мужнасць абаронцаў і ніводзін горад не быў захоплены. Таму летапісец і пазначыў стандартны ў такіх выпадках туманны запіс, які павінен быў закамуфляваць паразу: "И поимаша грады многы и звратишася в домы". Ваенныя дзеянні працягваліся ў 1250 годзе. Актыўны ўдзел у іх прыняў Лівонскі ордэн, які пакінуў кааліцыю Раманавічаў пасля хрышчэння па каталіцкім абрадзе Міндоўга ў 1251 годзе (да гэтага Міндоўг, каб атрымаць навагрaдскі пасаг, прыняў праваслаўе) і стаў саюзнікам маладога альянсу Чорнай Русі з Літоўскай зямлёй. Саюз быў замацаваны каранацыяй Міндоўга ў 1253 годзе.

**Войшалк і Раман**

У гэты час кіраўніком Слонімскага княства быў сын Міндоўга Войшалк (1223 — 1267), які таксама валадарыў у Ваўкавыску, а пасля прыняцця каталіцтва яго бацькам часова нават стаў кіраўніком Навагрaдка. Хутчэй за ўсё, менавіта ён кіраваў абаронай ад Раманавічаў, паспяховыя дзеянні супраць якіх дазволілі пасля пяці гадоў вайны заключыць у 1254 годзе мір, у выніку якога гаспадаром Навагрaдскім, Слонімскім, Ваўкавыскім і "все города" стаў сын галіцка-валынскага князя Даніла — Раман (каля 1230 — 1258). Галіцка-Валынскаму княству не ўдалося

ўключыць Чорную Русь у свой склад і прыйшлося прызнаць новую дзяржаву за яе згоду на васальную залежнасць. Прычым асабіста Раман стаў васалам Міндоўга, які захаваў за сабою Літоўскую зямлю.



Войшалк жа адпраўляецца ў Палонінскі манастыр на Валыні, дзе прымае манаскі сан. Пасля некалькіх год жыцця ў манастыры ён адпраўляецца ў паломніцтва на Святую Гару (Афон), але "И не може доити Святое Горы и воротися в Болгарѣхъ". Каля 1257 года разам з 10-12 манахамі Войшалк заснаваў на Нёмане манастыр, які пазней стануць называць Лаўрышаўскім.

**Вайна з Бурундаем і Раманавічамі**

У 1258 годзе ў справы Галіцка-Валынскага княства ўмешваюцца мангола-татары. Каб прадухіліць аднаўленне яго магутнасці, мангольскі ваеначальнік Бурундай вырашыў ліквідаваць саюз з ВКЛ і таму ініцыяваў ваенны паход на Панёманне. У гэты час Войшалк узначаліў абарону ад татараў і войск Раманавічаў, якія прайшлі праз рэгіён, сталі рабаваць Літоўскую і Нальшанскую зямлі. Даніл разумеў: каб замацаваць поспех неабходна захапіць Войшалка і яго саюзніка Таўцівіла. Для гэтага ён авалодаў Ваўкавыскам і паланіў князя Глеба. Войшалка ў горадзе не было, таму на яго пошукі адпраўляюцца ў розныя накірункі атрады. Аднак у выніку "вялікага зману", як адзначае Іпацьеўскі летапіс, у палон да Войшалка патрапіў сын Данілы Раман.

Што ж у гэты перыяд адбывалася ў Слоніме? Ці пацярпеў горад ад татараў і войск Раманавічаў? Летапіс аб гэтым напрамую нічога не гаворыць. Аднак гэта таксама інфармацыя! Пасля таго як Даніл згадзіўся на ўдзел у паходзе разам з мангола-татарамі, яго сын Раман страціў права на кіраванне гарадамі-дзяржавамі Панёмання. Войшалк здымае манаскі строй і становіцца на чале Чорнай Русі. Раман патрапіў у палон і яго імя болей не згадваецца на старонках летапісу. Даніл вырашыў вярнуць сына, але не ведаў, у якім накірунку яго і Войшалка шукаць. Таму ён, што асабліва для нас важна, накіроўвае частку войска ваяваць па Зэльве (хутчэй за ўсё ў летапісе так называецца рака Зэльвянка), а сам збіраецца ў паход на Горадню. Які сэнс у гэтых дзеяннях з улікам таго, што захоплены Ваўкавыск? Справа ў тым, што мангола-татары разам з Раманавічамі здзейснілі своеасаблівы "бліцкрыг" (маланкавую вайну) — прайшлі праз Ваўкавыскае княства ў Літоўскую зямлю. Але па абодва бакі знаходзіліся непадкантрольныя гарады — Горадня і Слонім. Данілу так і не ўдалося іх падпарадкаваць, а мангола-татары накіраваліся ў Яцвяжскую зямлю, затым у Польшчу. Пасля гэтага працягваць ваенныя дзеянні ў рэгіёне не мела сэнсу. Да таго ж Раманавічам прыйшлося дорага заплаціць за выкананне волі Бурундая, які спыненнем саюза Галіцка-Валынскага княства з ВКЛ не абмежаваўся. Праз год на яго загад Раманавічы вымушаны былі разбурыць умацаванні гарадоў сваёй дзяржавы і змірыцца са стратай тэрыторый на поўначы.

**Ядро новай дзяржавы**

Да самай смерці Міндоўга восенню 1263 года Панёманне заставалася ў адносным спакоі. У той жа час дружыны маладой дзяржавы адстойвалі свае інтарэсы ў змаганні з крыжакамі, польскімі князямі і Галіцка-Валынскім княствам. Прымалі ў гэтай барацьбе ўдзел і воіны са Слонімскага княства.

Забойства Міндоўга вымусіла Войшалка, які пасля падзей 1258 года вярнуўся ў манастыр, у чарговы раз зняць манаскі строй і адпомсціць за смерць бацькі. Яго падтрымалі гарады-дзяржавы Чорнай Русі і Пінск, войскі якіх у хуткім часе вярнулі кантроль над Літоўскай зямлёй. Войшалк разумеў, што магутнасць новай дзяржавы залежыць не толькі ад багацця і моцы яе вояў, але важкім элементам павінны быць добрыя адносіны з суседзямі. Таму ён аднаўляе саюз з Галіцка-Валынскім княствам — заключае дамову з Васількам і нават прымае на княжанне ў Літву сына памерлага Даніла — Шварна, які быў жанаты на яго сястры. Да 1267 года Войшалк разам са Шварнам амаль няспынна вядзе барацьбу за аднаўленне ВКЛ, а пасля надыходу спакою ў дзяржаве зноў адпраўляецца ў манастыр, адказаўшы на ўгаворы Шварна застацца: "Согрѣшилъ есмь много перед Богомъ и человѣкы. Ты княжи, а земля ть опасена". Аднак знайсці зямны спакой князю-манаху не было наканавана — Войшалка з зайздрасці ўласнаручна забіў Леў Данілавіч (каля 1228 – каля 1301), які на некаторы час авалодаў Панёманнем пасля смерці свайго брата Шварна і дзядзькі Васількі ў 1269 годзе.

**Трайдзень**

Слонімскае княства зноў патрапіла ў сферу ўплыву Галіцка-Валынскага княства. Здавалася, ВКЛ як палітычнае ўтварэнне на гэты раз адышло ў нябыт, рассыпаўшыся на тэрытарыяльныя шматкі пад уладай гарадоў-дзяржаў. Але Княства ўжо стала вобразам адзінства славян і балтаў, хрысціян і язычнікаў, сімвалам адстойвання сваіх інтарэсаў для жыхароў Панёмання, у межах якога было выхавана пакаленне, якое ўспрымала яго як родную дзяр-



жаву, гатовае змагацца за яго са зброяй у руках. Чорная Русь у чарговы раз аб'ядноўваецца, на гэты раз пад кіраўніцтвам князя Трайдзеня, нялітасцівага да сваіх ворагаў, ад якіх ён атрымаў мянушку Драпежны. Трайдзень адыходзіць ад саюза з Галіцка-Валынскім княствам, якое ўжо не магло пазбавіцца залежнасці ад мангола-татар.

**Прусы на Слонімшчыне**

Татарская конніца неаднаразова на працягу наступных дзесяцігоддзяў пустошыла Панёманне, у тым ліку і тэрыторыю Слонімскага княства, у абароне якога ўдзельнічалі і прусы. Лічыцца, што гэты балцкі саюз плямёнаў амаль цалкам быў вынішчаны рыцарамі-крыжаносцамі. Насамрэч вялікую колькасць прусаў, вымушаных пакінуць свае землі, прыняў Трайдзень у 1276 годзе і "посади часть и в Гроднѣ, а часть ихъ посади во Въслонимѣ". У ваколіцах Горадні і Слоніма яны знайшлі другую Радзіму. Але нават за кошт гэтых падмацаванняў Трайдзеню не ўдалося спыніць наступ галіцка-валынскага князя Уладзіміра (каля 1249-1288), яго дваюраднага брата Льва Данілавіча і мангола-татар на Слонім.

**Васілька Васлонімскі**

Аслабленае барацьбою з крыжакамі, якія пасля захопу тэрыторыі прусаў пачынаюць актыўна ўмешвацца ў справы маладой дзяржавы, Княства не здолела абараніць Слонім. Горад быў захоплены, а на чале яго стаў Васілька, названы ў Іпацьеўскім летапісе "князем Вослонимьским". Магчыма, ён паходзіў з мясцовай княскай дынастыі, якая мела даўнія сувязі з Галіцка-Валынскім княствам.

Васілька ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1281 годам як адзін з кіраўнікоў пахода на Мазовію, згаданым у хроніцы Длугаша пад 1286 годам. Але найхутчэй ён адбыўся ў 1287 годзе. Галіцка-Валынскі князь Уладзімір вырашыў падтрымаць свайго саюзніка, мазавецкага князя Конрада ў барацьбе з яго братам Баляславам і накіраваў за Віслу войска начале чатырох ваявод, галоўным сярод якіх быў Васілька. Гэтыя войскі захапілі горад Гасціны (сённяшні Гастынін), размешчаны ў 110 км на захад ад Варшавы. Затым "Василько князь поиде к Берестью со множествомъ полона, и посла предъ собою вѣсть к осподину своему князю Володимирови". У наступным годзе адбыўся яшчэ адзін паход на валоданні польскага князя Баляслава, у кіраванні якога прыняў удзел Васілька: "И тако поидоша на Болеслава, и начаша воевати около Вышегорода, и поимаша чѣляди бещисленое множьство, и скота и коний".

Становішча Васількі ў агульнай іерархіі Галіцка-Валынскага княства падкрэслівае і значнасць Слонімскага княства, якое ён узначальваў. З моманту ўзнікнення Слоніма тут выхоўваліся воіны, якія праславілі сябе і сваю Бацькаўшчыну ў вялікай колькасці паходаў супраць ворагаў і ў падтрымку сваіх саюзнікаў.

Аб далейшым лёсе слонімскага князя Васількі мы нічога не ведаем. Яго імя не сустракаецца сярод удзельнікаў пахода на Польшчу, арганізаванага кіраўніком Залатой Арды напрыканцы 1280-х гадоў. Па меры ж таго, як расла залежнасць Галіцка-Валынскага княства ад мангола-татар, павялічвалася незадаволенасць сярод яго жыхароў на перыферыі. Магчыма, яшчэ пры жыцці Васількі Слонімскае княства вярнулася ў склад ВКЛ.

**Манвід — сын Гедыміна**

У часы Віценя (вялікі князь у 1295 —1316) Слонімшчына ў чарговы раз становіцца адным з апорных цэнтраў Княства. Пра тыя часы мы мала, што ведаем. Але гэта былі гады канчатковага аслаблення Галіцка-Валынскага княства і барацьбы з крыжакамі, якія здзяйсняюць напады на Горадню, Наваградак, і, магчыма, Слонім. Княства ўсё больш і больш мацнее. На змену Віценю прыходзіць Гедымін, пасля смерці якога ў 1342 годзе Слонімскае княства ў якасці ўдзела дастаецца яго сыну Манвіду.

У беларуска-літоўскіх летапісах Манвід (каля 1300 — 1348) называецца старэйшым сынам Гедыміна, ад якога ён атрымаў



Слонім і Кернаў. Бацька не выбраў яго сваім нашчадкам у якасці гаспадара ВКЛ. Вялікім князем стаў малодшы брат — Яўнут, уладу ў якога адабралі два іншыя браты — Альгерд і Кейстут. Верагодна, Манвід не удзельнічаў у братэрскіх сварках, стаяў асабняком ад вялікай палітыкі, аддаючы перавагу рыцарскай годнасці, кіраванню сваімі ўладаннямі і змаганню супраць ворагаў ВКЛ. Прымаў ён удзел у барацьбе з крыжакамі і загінуў 2 лютага 1348 года ў бітве на рацэ Стрэве, недалёка ад Коўна (сённяшні Каўнас).

Што далей стала са Слонімскім княствам? Па меры цэнтралізацыі ВКЛ неабходнасць у рэгіянальных адзінках у форме княстваў адпадала. І найперш гэты лёс напаткаў тэрытарыяльнае ядро маладой дзяржавы — Гарадзенскае, Ваўкавыскае, Наваградскае і Слонімскае княствы. Князі замяняліся намеснікамі, а княствы станавіліся часткамі ваяводстваў — Слонімскае намесніцтва ў часы Вітаўта ўвайшло ў склад Трокскага ваяводства.

Так у агульных рысах развівалася Слонімскае княства, якое стаяла ля вытокаў Вялікага княства Літоўскага, а яго князі праславіліся сваёю мужнасцю ў змаганні за сваю Радзіму.

**Васіль Герасімчык**

# Слонім на старонках нямецкай газеты 1916-1918 гадоў



*Не вельмі ўдалы малюнак Слоніма Адольфа Шорлінга, 1917 год*

*Працяг. Пачатак на с. 1.*

Галоўным карэспандэнтам выдання быў нямецкі малодшы афіцэр Вальтэр Фэст. У сваіх нарысах ён пісаў не толькі пра нямецкіх вайскоўцаў, але і пра гараджан, пра жыццё горада: гаспадарчае, культурнае. Пісаў вобразна, па-мастацку, нават пра здарэнні. Напрыклад, падрабязна напісаў пра пажар, які 13 верасня 1916 года знішчыў палову гандлёвых радоў на месцы цяперашняга сквера на Першамайскай вуліцы. Тушылі яго слонімская пажарная каманда, нямецкія і аўстрыйскія вайскоўцы. У адным з наступных нумароў Фэст напісаў пра аднаўленчыя працы.

У кастрычніку 1916 года з'явілася зацемка пра кінатэатр, які наладзілі ў Слоніме нямецкія вайскоўцы (на жаль, невядома, у якім будынку). Яго наведвалі не толькі яны, але і мясцовыя жыхары.

Летам 1917 года ў Слоніме рэгулярна праходзілі культурныя мерапрыемствы, з удзелам нямецкага ваеннага аркестра, салдацкай капэлы. Некаторыя канцэрты былі дабрачынныя, грошы збіралі для бедных дзяцей і для дзіцячага дома. У ліпені 1917 года ў горадзе быў на гастролях "Нямецкі тэатр Усходняга фронту", у якім былі сабраныя акцёры з тэатраў Штутгарта, Ольдэнбурга, Варшавы. Ён выступаў з вялікім поспехам.

У нумары ад 2 траўня 1917 года В. Фэст надрукаваў вялікі артыкул пра Слонім. Ён апісаў горад: храмы, вуліцы, ратушу, пажарнае дэпо, чыгуначную станцыю, рынак, гандаль, які ажыўляўся ў нядзелі, калі прыязджалі сяляне з навакольных вёсак. Фэст піша, што цэнтр грамадскага жыцця ў Слоніме быў там жа, дзе і цэнтр дзелавога жыцця — каля гандлёвых радоў на Парадной вуліцы (ніжняя частка цяперашняй Першамайскай вуліцы). Ажыўлена на ёй было па вечарах. Дзесьці там знаходзіліся кінатэатр і тэатр (верагодна, у адным будынку). Таксама Вальтэр Фэст сцвярджае, што ў той час "сістэма школьнай адукацыі" была "дастаткова добра развітая". Згадвае вадаправод, які дзейнічаў у горадзе. Піша пра ваданапорную вежу, якую дабудоўвалі нямецкія салдаты. У артыкуле згадваюцца хрысціянскія і яўрэйскія могілкі, пахаванні загінулых салдат, якія былі ў розных месцах у горадзе і нагадвалі пра жорсткія баі верасня 1915 года.

У пачатку верасня 1917 года ў горадзе прайшло спартыўнае свята, якое арганізавалі нямецкія вайскоўцы. Яны спаборнічалі ў лёгкаатлетычным пяцібор'і, а таксама ў плаванні (на Малым канале Агінскага). У газеце была змешчана падрабязная справаздача пра пераможцаў. На жаль, няма інфармацыі пра футбольныя матчы ў Слоніме (напрыклад, у Баранавічах немцы рэгулярна гулялі ў футбол).

У баранавіцкай газеце з'яўляліся здымкі і малюнкі Слоніма, як ілюстрацыі да слонімскіх зацемак і без прывязкі да тэксту. Удалую панараму горада з правабярэжжа Шчары намаляваў Вальтэр Фэст (№ 53 ад 4 ліпеня 1917 года), а вось у Адольфа Шорлінга яна атрымалася не вельмі дакладная (№ 70 ад 1 верасня 1917 г.), аднак пасля была надрукаваная ў выглядзе паштоўкі. Фэст зацікавіўся надмагільнымі камянямі (мацэвамі) на яўрэйскіх могілках і напісаў пра іх адмысловы артыкул, зрабіў замалёўкі некаторых з іх.

У снежні 1917 года ў Слоніме была арганізавана мастацкая выстава, на якой былі прадстаўленыя малюнкі, карціны нямецкіх вайскоўцаў. На іх можна было пабачыць як краявіды Слонімшчыны, так і яе жыхароў.

Публікацыі ў нямецкім перыядычным выданні часоў Першай сусветнай вайны надзвычай каштоўныя для даследавання гісторыі Слонімшчыны. "СК" будзе вяртацца да іх у наступных нумарах.

**Сяргей Ёрш**

*Уладзімір Сакалоўскі: "У пачатку XX стагоддзя пра Слонім шмат пісала "Баранавіцкая ваенная газета" [інтэрв'ю, запісанае Сяргеем Чыгрыном] // Газета Слонімская, 2005, № 28, 13 ліпеня, с. 25. У іншай публікацыі былі змешчаныя пяць малюнкаў-вясковых пейзажаў і Слоніма з "Баранавіцкай ваеннай газеты", знойдзеныя Ул. Сакалоўскім: Чыгрын С. Ваколіцы Слоніма на старонках ваеннай газеты // Газета Слонімская, 2005, № 27, 6 ліпеня, с. 25.




*Яўрэйскія мацэвы. Малюнак Вальтэра Фэста, 1917 год*




*У траўні 1917 года быў апублікаваны малюнак яўрэйскага дома ў Слоніме*



*Рынак у Слоніме. Малюнак А. Шорлінга, 1917 год*



*Узарваны чыгуначны мост каля Слоніма. Фота 20 верасня 1915 года*



*Гандлярка*



*Татарская вуліца ў Слоніме*

# Пра “мора Герадота” каля Слоніма на шведскай карце XVII стагоддзя







У кнізе Андрэя Катлярчука, якая выйшла ў Мінску ў 2002 годзе[1], змешчаны фрагмент малавядомай у Беларусі шведскай карты паўночнай Еўропы 1626 года Андрэаса Бурэ, на якім можна пабачыць землі тагачаснага Вялікага княства Літоўскага[2]. На карце мы бачым каля Шчары надпіс Slonim (Слонім), абазначаны на левабярэжжы замак і... вялізнае возера на захад, поўдзень і ўсход ад горада. Праз яго праходзіць Шчара!

Што гэта, памылка складальніка карты? Катлярчук піша, што карта Бурэ — адна з найлепшых у той час, над ёй ён працаваў 23 гады. Што да беларускіх земляў на ёй, дык “па дакладнасці з гэтай мапай можа паспрачацца толькі славутая “Радзівілаўская мапа”.[3] На аснове згаданай карты Бурэ Нікалас Вішэр выдаў у 1650 годзе ў Амстэрдаме свой варыянт карты паўночнай Еўропы. Яна мае адрозненні. На ёй ужо можна разгледзець паўднёвы бераг возера. Слонім знаходзіцца не на яго паўночным беразе, а на пэўнай адлегласці. З захаду возера ўжо не акружае горад. З іншага боку горад знаходзіцца вельмі далёка ад Шчары (як і ў Бурэ), таму наконт дакладнасці можна паспрачацца.

Няма сумненняў, што на карце пазначана возера, пра якое ў V стагоддзі да нашай эры пісаў старажытнагрэцкі гісторык Герадот (адсюль і “мора Герадота”). Пінскі краязнаўца Аляксей Дуброўскі абгрунтаваў знаходжанне яго ў старажытнасці каля цяперашніх Спораўскіх азёр і Выганаўскага возера. Яно не было глыбокім, паступова высыхала. Дуброўскі нагадвае пра “фенамен скаплення стаянак, паселішчаў, гарадзішчаў у Слонімскім раёне па Шчары”. Тлумачыць яго існаваннем на поўдні “мора Герадота” і воднага шляху з Прыпяці да Шчары[4].

Праз дзве тысячы гадоў пасля Герадота возера моцна абмялела. Яго яшчэ пазначаюць на еўрапейскіх картах XVI — пачатку XVII стагоддзяў, хаця ў некаторых выпадках ужо называюць не толькі “Сармацкім возерам”, але і “Сармацкім балотам”.[5]

Як балота яно пазначана і на




*Фрагмент карты Герарда Меркатара 1595 года. Відавочна, што яна недакладная. Аднак варта звярнуць увагу, што Слонім з замкам змешчаны на правым беразе Шчары!*




Радзівілаўскай карце Вялікага княства Літоўскага, выдадзенай у 1613 годзе.

Бурэ і Вішэр не ўлічылі Радзівілаўскую карту, карысталіся картамі больш раннімі. Напрыклад, вядомая карта Себасцьяна Мюнстэра 1540 года. На ёй пазначана "Сармацкае балота" і на яго паўночным беразе... Жыровічы. Пры гэтым "Жыровіцкі замак" больш унушальны, чым замкі Гродна ці Навагрaдка. А Слоніма ўвогуле няма...

Як піша А. Катлярчук, калі ў Беларусі ў пачатку XVIII ст. знаходзіўся з шведскім войскам кароль Карл XII, ён карыстаўся картай 1626 года, той самай, якую падрыхтаваў Андрэас Бурэ.[6] Можа невыпадкова ў красавіку 1706 года шлях шведаў у Пінск быў пракладзены з Жалудка не праз Слонім, а праз Дзярэчын, Азярніцу і Ружаны? Нібыта, шведы, абыходзілі з захаду ўяўнае возера з карты... Слонім, дарэчы, крыху раней быў разрабаваны шведскімі войскамі, якія высылаліся яшчэ з Жалудка.

"Мора Герадота" ці "Сармацкае возера" наўрад ці даходзіла да Слоніма і Жыровічаў, як гэта пазначана на некаторых старажытных картах. Яго паўночны бераг быў дзесьці ў цяперашнім Івацэвіцкім раёне. З іншага боку, на працягу тысячагоддзяў і стагоддзяў яго абрысы змяняліся. Фактар наяўнасці на поўдзень ад Слоніма вялізнага возера, гэтай прыроднай перашкоды, зусім не ўлічваецца гісторыкамі. Напрыклад, цікава, якімі шляхамі ішлі (ці плылі?) да горада дружыны кіеўскіх, а пасля валынскіх князяў у XI-XIII стагоддзях? Слонімская гісторыя яшчэ поўная таямніц, якія нам трэба паспрабаваць разгадаць.

**Сяргей Ёрш**




1. Котлярчук А. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў. — Менск: Энцыклапедыкс, 2002.
2. Тамсама, с. 140-141.
3. Тамсама, с. 142.
4. Дубровский А. На берегах Геродотова "моря" // Секретные исследования, 2010, № 3; http://secret-r.net/arkhiv-publikatsij/10-2010/na-beregakh-gerodotova-morya
5. Ильин А. Существовало ли Сарматское море-озеро? // Гістарычная брама, 2002, № 1-2(19-20); http://brama.brestregion.com/nomer19-20/artic12.shtml
6. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў, с. 142.

*Краязнаўчая хроніка*

## *Удзел у акцыі "Мы гэтай памяці верныя"*

23 красавіка ўдзельнікі аб'яднання па інтарэсах «Гістарычнае краязнаўства» і вучні СШ № 4 здзейснілі пешаходную экскурсію. Яна пачалася ад помніка воінам 199-й штурмавой авіяцыйнай дывізіі, якія вызвалялі Слонім. Ён усталяваны на тэрыторыі 4-й школы. Далей былі наведаны былыя вайсковыя могілкі ў лесе каля вуліцы Леашэні (у 1944-1945 гадах там былі пахаваныя каля 100 савецкіх воінаў). У гэтым месцы ўсталяваны мемарыяльны знак «Палявы шпіталь». Скончылася вандроўка каля помніка землякам-ахвярам вайны і загінулым воінам (пірамідальнага абеліска) па Баранавіцкай вуліцы.

Адзначым, што экскурсія праводзілася ў рамках рэспубліканскай акцыі «Мы гэтай памяці верныя». Яе мэта — увекавечанне памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны, прыцягненне школьнікаў да культурнай і гістарычнай спадчыны Слонімшчыны.

# З успамінаў пра даследаванні Жыровіцкай святыні

*Заканчэнне, пачатак у № 2(люты) і № 3(сакавік).*



*Жыровічы. Крыніца: bulinska.eu*

Як ужо згадвалася, даследаваннем мінулага Жыровіцкай святыні, зборам дакументаў аб гэтым цікавейшым помніку краю ў мінулым займаліся і архіепіскап Антоній Зубко, і архімандрыт Мікалай Рэдута, і іншыя святары праваслаўнай канфесіі. Думаю, што існавалі і ўніяцкія, і каталіцкія даследчыкі, але працы іх застаюцца мне амаль невядомыя, акрамя М. Балінскага, Т. Ліпінскага, В. Харкевіча.*

Праз нейкі час мне ўдалося сустрэцца з уладыкам Антоніем Мельнікавым у яго жыровіцкай кватэры, што месцілася ў прасторных пакоях на другім паверсе збудаванага ў [19]50-ыя гады корпуса для духоўнай семінарыі. Праводзіў мяне (пасля ўзгаднення) яго міласці архімандрыт Канстанцін (пасля ён стаў епіскапам Брэсцкім). Уладыка Антоній сустрэў мяне вельмі ветліва і з непрыхаванай цікавасцю. Падрабязна пацікавіўся, што прывяло мяне да даследавання святыні і што мяне цікавіць у першую чаргу і з якой мэтай мяркую займацца гэтай справай, якой у мінулым ужо займаліся іншыя людзі духоўнага сану? Пасля працяглай і зацікаўленай размовы, ён спытаў, ці знаёмы я з ягоным рукапісам “Жировицкий монастырь в истории западнорусских епархий” і якая мая думка аб гэтай працы.

Я характарызаваў рукапіс вельмі станоўча і пажадаў хутчэй надрукаваць, што аказалася ў тыя часы справай нялёгкай нават яму. Ён параіў і мне не вельмі спадзявацца на трыумф маёй ідэі, хоць я падтрымліваў нейкую творчую сувязь з рэдакцыяй “Гродзенскай праўды” праз рэдактара краязнаўчага аддзела газеты Ф. Пугач. Яна дапамагла мне апублікаваць шэраг краязнаўчых артыкулаў у гэтым тады беларускамоўным абласным перыядычным выданні. Пасля я накіраваў ёй (для спробы) невялічкі артыкул пра Жыровіцкі архітэктурны комплекс і праз нейкі час атрымаў ветлівы адказ, што матэрыял не можа быць прыняты да друку, бо гэты храмавы комплекс з’яўляецца дзеючым, а газета — орган абкама партыі. Тады я зразумеў папярэджанне ўладыкі.

Мы з ім абмяркоўвалі шырокае кола пытанняў звязаных з святыняй, асабліва ў перыяд польскага панавання і нямецкай акупацыі. Яго цікавілі сабраныя мною матэрыялы і назіранні. На развітанне ўладыка запрасіў мяне наведаць яго сціплы музей у тым жа будынку.

Быў гэта вялікі пакой, абстаўляваны зашклёнымі вітрынамі з старымі царкоўнымі выданнямі і ілюстрацыямі, якія ў нейкай ступені характарызавалі або паведамлялі пра духоўнае жыццё краю. Непасрэдна датычных Жыровіцкай святыні матэрыялаў было нешмат. Была тут і калекцыя манет. На сцяне ў шыкоўнай раме вісеў вялікі алейны малюнак Жыровіцкай святыні не вельмі таленавітага мастака.

Музей не экспанаваў старажытных храмавых дакументаў. Сабраныя рэчы сведчылі аб абмежаваных магчымасцях збіральніка, але і аб яго закаханасці ў святыню, яго духоўнасць. Мне стала вядома, што гэты музей наведвалі нямногія. Уладыка паказваў яго толькі тым, каму давяраў і лічыў патрэбным. Я шчыра падзякаваў за цікавую інфармацыю і давер, і папрасіў прабачэння. Адначасна прасіў дазволіць мне абследаваць храмавыя камяніцы, якія не з’яўляюцца забароненымі і даступнымі.

Уладыка прасіў трымаць яго ў курсе маіх дасягненняў праз архімандрыта Канстанціна. Але пераканаўшыся ў немагчымасці публікацыі падобных даследаванняў у тагачаснай прэсе, я паступова адыйшоў ад гэтай тэмы. Праўда, усё ж абследаваў некаторыя збудаванні, пранікшы ў падстрэшшы Успенскага сабора, жылога корпуса і вучэбных карпусоў былога тэхнікума. Гэта дало цікавы матэрыял для роздуму.

Склалася меркаванне, што да казацкай нарады (1655 г.), калі Жыровічы былі моцна разбураны, Успенскі сабор меў на галоўным фасадзе дзве вуглавыя вежы, асновы якіх можна прасачыць і цяпер. Відаць яны былі разбураны гарматнымі абстрэламі. Пацярпелі і купалы над інтэр’ернай часткай храма. Меліся прабоіны і ў столевых скляпеннях. На гравюрнай выяве XVIII ст. храм ужо меў не першапачатковы выгляд, не пяць вежаў, а толькі тры.

Пры даследаванні так званага жылога корпуса манастыра, у яго ўсходняй частцы ўдалося выявіць старажытнае аднавежавае збудаванне Багародзіцкай царквы з цікавай уніяцкай фасаднай лепкай. А ў заходнім крыле — рэшткі недабудаванага каталіцкага касцёла. Згаданыя аб’екты, напэўна, таксама былі моцна пашкоджаныя. У пазнейшы час яны былі ўключаны ў агульнае збудаванне жылога корпуса.

Муры карпусоў былой духоўнай семінарыі і ўпраўлення епіскапа таксама будаваліся ў розны час і былі раздзелены, як асобныя аб’екты, хоць цяпер уяўляюць адзіны комплекс.

**Васіль Супрун**

*Balinski M., Lipinski T. Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystyzcznym. — Warszawa, 1846. T. 3; Charkiewicz W. Zyrowice-Lask krynice. — Słonim: Pol. T-wo Krajoznawcze, 1930.







*Вокладкі выданняў І. Раманоўскага*

*Кнігі пра Слонім*

## *Раманоўскі пра ”рускі” Слонім*

*Романовский И., Прошлое из жизни города Слонима, Вильна. Типо-лит. М.А. Дворжеца, Немецкая ул., 1898*

У 1898 годзе ў Вільні пабачыла свет невялікая кніга Івана Ануфрыевіча Раманоўскага. Яна была дапоўненай версіяй ранейшай яго працы – “Положение города Слонима в Литовском государстве”, выдадзенай у 1895 годзе ў Гродне.

У сваіх тэкстах Раманоўскі разглядае гісторыю Слоніма з пазіцый заходнерусізма і абапіраецца на працы Бранцава і Каяловіча. У адпаведнасці з ёю Беларусь усяго толькі “Северо-Западный край” Расіі. Па Раманоўскаму, Слонім “по происхождению исконно русский город”, “центральный пункт в Черной Руси”. Пры гэтым аўтар адзначае, што, нягледзячы на існуючыя гіпотэзы месца і часу яго ўзнікення, гэтыя пытанні пазбаўленыя фактàлагічнага матэрыяла. Важней іншае: як пасля заваявання літоўцамі і далейшага панавання польскай культуры Слонім здолеў захаваць свой “рускі дух”.

Акрэсліўшы сваю пазіцыю, Раманоўскі дае кароткі нарыс гісторыі Слонімкага княства ад пачатку з’яўлення Слоніма на гістарычнай арэне да смерці Альгерда. Згодна Раманоўскаму, Слонім быў заваяваны літоўцамі Міндоўга ў сярэдзіне XIII стагоддзя, але пры гэтым у ім захавалася жыццё, выпрацаванае на чыста рускіх пачатках і асновах, якое было запазычана літоўцамі. У тым ліку праваслаўе і руская мова, якая зрабілася пануючай сярод вышэйшага саслоўя літоўскай народнасці. Значэнне “рускага элемента” ў новай дзяржаве значна павялічылася ў часы Гедыміна. Але ў часы Ягайлы ў ВКЛ пачаўся наступ на праваслаўе і стаў распаўсюджвацца “польский дух”.

Згодна Раманоўскаму, Слонім у часы Ягайлы і Вітаўта адыгрывае галоўную ролю ў злучэнні Літвы і Польшчы. У Слоніме і Ваўкавыску выпрацоўваюцца важнейшыя пастановы ў гэтым пытанні. Слонімская зямля згубіла сваю ўдзельную самастойнасць у 1392 годзе, а пры Вітаўце па Гарадзельскай уніі 1413 года яна ўвайшла ў склад Троцкага ваяводства, з якога была вылучана ў самастойную адміністратыўна-судовую акругу толькі ў сярэдзіне XV ст.

Асабліваю прыхільнасць да Слоніма меў кароль Жыгімонт І, які надаў гораду магдэбургскае права. Яно садзейнічала шырокаму развіццю гандлю ў гарадах, дабрабыту яго насельніцтва і ўмацаванню развіцця рамёстваў. Слонім, згодна Раманоўскаму, займаў трэцяе месца па развіццю свайго гандлю ў краі, пасля Гродна і Брэста.

Раманоўскі, абапіраючыся на выдадзены Віленскаю камісіяй для разбора старажытных актаў у 1895 годзе 22 том “Актаў Слонімскага земскага суда”, у сваёй працы шмат увагі надае гісторыі стварэння і дзейнасці ў Слоніме з 1555 года земскага суда, калі горад стаў цэнтрам самастойнай адміністратыўна-судовай акругі.

Раманоўскі таксама прыводзіць карысныя звесткі пра ўплыў каралёў Рэчы Паспалітай на развіццё Слоніма. Пры гэтым найбольшую ўвагу надае каралям з дынастыі Вазаў. У той жа час у кнізе адсутнічаюць якія-небудзь згадкі пра гісторыю Слоніма ў другой палове XVII – першай палове XVIII стагоддзяў. Свой аповед Раманоўскі даводзіць да 1796 года, калі ўтвораная пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Слонімская губерня ўвайшла ў склад Літоўскай губерні, а Слонім ператварыўся ў шэраговы павятовы горад Расійскай імперыі.

**Васіль Герасімчык**

# Успаміны першага рэдактара "Вольнай працы"

Першым рэдактарам слонімскай раённай газеты "Вольная праца" (цяпер —"Слонімскі веснік") быў Іосіф Чарняўскі. Менавіта ён 26 верасня 1939 года выпусціў у свет яе першы нумар.

У другой палове 1980-х гадоў я пазнаёміўся з Іосіфам Антонавічам, шчыра з ім сябраваў, перапісваўся, некалькі разоў рабіў з ім інтэрв'ю. У маім хатнім архіве да сённяшніх дзён захоўваюцца яго лісты, паштоўкі, фотаздымкі, газеты з ягонымі публікацыямі. Гэта быў даволі шчыры чалавек, адкрыты, цікавы. Ён мне заўсёды казаў, што журналіст павінен і ў крытычных матэрыялах бачыць добрае, што "нельга ўсё сячы з пляча". "Крытыка не павінна быць "бруднай", — заўсёды казаў Іосіф Антонавіч.

У снежні 1988 года Іосіф Чарняўскі прыслаў мне свае ўспаміны з невялічкім лістом: "Добры дзень, паважаны Сяргей! Атрымаў ад Вас пісьмо. Дзякуй за яго, за добрыя пажаданні, за тое, што памятаеце пра мяне. Каратка пастараюся расказаць пра свой лёс, свой жыццёвы шлях, пра Слонімшчыну, якою яна мне запамяталася. Жадаю Вам, юны таварыш Сяргей, усіх зямных благ. З павагаю — І. А.Чарняўскі. 12.01.88 г.".

Першага рэдактара слонімскай раённай газеты ўжо няма на гэтым свеце. Але я часта яго прыгадваю, пераглядаю і перачытваю яго лісты, артыкулы, успаміны. Чытачам "Слонімскага краю" прапаную ўрывак з успамінаў Іосіфа Чарняўскага, які датычыць яго дзейнасці на Слонімшчыне.

**Сяргей Чыгрын**

***З успамінаў Іосіфа Чарняўскага***

Нарадзіўся я ў сялянскай сям'і на Палессі — у вёсцы Клівы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці 27 верасня 1911 года. Самастойнае жыццё пачаў да-



*Іосіф Чарняўскі. Слонім, 1940 год*

волі рана, бо ў трынаццаць гадоў застаўся без бацькоў, таму падлеткам пачаў працаваць на лесанарыхтоўках. Вельмі хацеў вучыцца, таму ў 1924 годзе паступіў у пяты клас Бабчынскай сярэдняй школы з педагагічным ухілам і нават атрымліваў стыпендыю — 4 рублі ў месяц. За гэтыя грошы харчаваўся і вучыўся.

Пасля сямі класаў райкам камсамола накіраваў мяне на вучобу ў Гомельскі педагагічны тэхнікум. Вучыўся адзін год, бо ўстанову ліквідавалі, а мяне перавялі ў педтэхнікум у Рагачоў.

У 1931 годзе, як актыўнага пазаштатнага карэспандэнта газеты, мяне ўзялі на працу ў газету "Камунар". Праўда, працаваў я там нядоўга, бо быў накіраваны ў Мінск на курсы газетных работнікаў, якія былі створаны пры ЦК КП(б)Б. Пасля гэтых курсаў я стаў працаваць карэспандэнтам "Комсомольскай правды" па Беларусі, а потым атрымаў пасаду загадчыка аддзела ў газеце "Чырвоная змена".

Напрыканцы 1933 года быў прызваны ў рады Чырвонай Арміі, два гады служыў на Далёкім Усходзе, спачатку кулямётчыкам, потым сакратаром камітэта УЛКСМ зборнага кулямётнага батальёна, а затым — сакратаром палкавой шматтыражкі [газеты].

Пасля заканчэння службы, я зноў вярнуўся ў Мінск у "Чырвоную змену". А калі ў красавіку 1938 года на рускай мове была арганізавана газета для моладзі — "Сталинская молодёжь" (цяпер гэта газета "Знамя юности"), мяне перавялі на працу ў рэдакцыю гэтай газеты на пасаду адказнага сакратара.

У верасні 1939 года ў рэдакцыю газеты "Сталинская молодёжь" патэлефанаваў інструктар ЦК КПБ нехта Дзехцяроў і сказаў, што Чарняўскі тэрмінова павінен з'явіцца ў Цэнтральны Камітэт. Там ствaралася група журналістаў, якіх накіроўвалі на працу ў Заходнюю Беларусь. Мяне камандзіравалі ў Слонім стварыць і рэдагаваць раённую газету "Вольная праца".

18 верасня 1939 года я прыехаў у горад над Шчарай. А 19 верасня ў Слоніме было створана Часовае павятовае ўпраўленне, мэтай якога было навядзенне рэвалюцыйнага парадку ў горадзе і раёне. Яго першым старшынёй быў Мацвей Колатаў з Урала. А я — яго намеснікам, але найперш — адказным рэдактарам газеты "Вольная праца". Дапамагалі мне ў стварэнні газеты слонімская паэты Анатоль Іверс (Іван Міско) і Алесь Сучок (Пётр Дабрыян). Гэта былі добрыя хлопцы, яны адразу ж паказалі сябе дбайнымі і працавітымі журналістамі. З цікавымі злабадзённымі вершамі ў газеце часта выступаў паэт Сяргей Новік-Пяюн.

Прыехаўшы ў Слонім, я адразу удасканаліў становішча з паліграфічнай базай. Тады ў горадзе былі чатыры рамесніцкія друкарні, уласна кажучы, гэта былі падсобныя майстэрні мясцовых гандляроў па выпуску розных квітанцый, пераплётаў

кніг, сшыткаў, аб'яў, паведамленняў мясцовых улад. Знаходзіліся друкарні ў цёмных, паўпадвальных пакойчыках. Гаспадарамі гэтых друкарняў былі Ельян, Карпоўскі, Дзерачынскі…

На другі дзень савецкай улады ў Слоніме я арганізаваў сход, куды заклікаў рабочых і гаспадароў друкарняў. З імі разам вырашыў пытанні з паліграфічнай базай. Аказалася, што ў падвалах валяліся вялікія ўпакоўкі са старымі шрыфтамі, яшчэ з царскіх часоў. Рабочыя дасталі іх, разабралі па касах і праз пару дзён — 26 верасня ў Слоніме выйшаў першы нумар газеты "Вольная праца". Іван Міско, Пётр Дабрыян і іншыя мясцовыя актывісты бралі газету пачкамі і раздавалі людзям проста на вуліцах горада. Па "Вольную працу" у Слонім прыязджалі актывісты з Зэльвы, Дзярэчына, Быцені, Азярніцы, Казлоўшчыны, Жыровіч, Шылавічаў, Альбярціна, Міжэвічаў і з іншых вёсак і мястэчак. Бралі газету і адвозілі ў глыбінку Слонімскага павета. Першыя нумары "Вольнай працы" распавядалі пра савецкую ўладу, пра пераўтварэнні, якія тады адбываліся на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі.



*Іосіф Чарняўскі (справа) і Язэп Семяжон. Усходняя Прусія, вясна 1945 года*

Праз пэўны час усе прыватныя друкарні ў Слоніме аб'ядналі ў адну. Дзеля гэтага адвялі вялікае і прасторнае памяшканне, якое раней належала [польскаму] Саюзу штшэльцаў (стралкоў). Гэта памяшканне знаходзілася на вуліцы Студэнцкай у садзе. Мінскія друкары прыслалі вялікі запас новых шрыфтоў і кас для іх. У рады газетчыкаў далучыліся маладыя журналісты Іван Канюшэўскі, Міхась Арцёменка, Майсей Гваздзюкевіч. "Вольная праца" стала выходзіць два разы на тыдзень. Павялічылася колькасць пазаштатных карэспандэнтаў. Рабіць газету цікавай, разнастайнай і злабадзённай дапамагалі Маеўскі з Альбярціна, Курыловіч з Міжэвічаў, Мікалай Міско з Чамяроў, Суржынская з Быцені, Калеснікаў з Дзярэчына, Хомскі са Слоніма і іншыя сябры рэдакцыі.

"Вольную працу" у Слоніме я рэдагаваў да 20 чэрвеня 1941 года. А за два дні да пачатку вайны мяне выклікалі на курсы перападрыхтоўкі афіцэрскага складу. Гэтыя курсы адбываліся ў Смаленску, куды я і паехаў…

*In memoriam*

# *Памёр Аляксандр Талерчык*

5 траўня з Гродна прыйшла сумная вестка пра смерць на 84-м годзе жыцця нашага земляка Аляксандра Талерчыка.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Парэчча на Слонімшчыне. Значную частку жыцця пражыў у абласным цэнтры, але сувязяў з малой радзімай не губляў.

Талерчык быў краязнаўцам, актыўным грамадскім дзеячом. Ён — аўтар шматлікіх краязнаўчых публікацый. Сярод іх — кніга «Парэчча: гісторыка-краязнаўчы нарыс пра вёску Парэчча Слонімскага раёна» (Гродна, 2002, 160 с.)*. Ён шмат працаваў у архівах, шукаў дакументы пра родную вёску і яе людзей. Але галоўнай справай жыцця Аляксандра Талерчыка было даследаванне дзейнасці нашага земляка Міхала Валовіча, паўстанцкага камандзіра, які ахвяраваў сваё маладое жыццё за свабоду Радзімы. Больш таго, Аляксандр Сямёнавіч самым актыўным чынам спрычыніўся да ўшанавання яго памяці ў Парэччы, дзе быў усталяваны помнік. Гэта месца, дзе збіраюцца слонімцы, каб згадаць пра Валовіча і яго паплечнікаў. Цяпер будзем згадваць пра Аляксандра Талерчыка, шчырага, светлага, сціплага чалавека, беларускага патрыёта, які так любіў сваю Бацькаўшчыну.



Рэдакцыя бюлетэня «Слонімскі край» выказвае спачуванні блізкім і родным Аляксандра Сямёнавіча Талерчыка. Светлая памяць!

**Адзін з раздзелаў гэтай кнігі друкаваўся ў «першым» «Слонімскім краі». Гл.: Талерчык А. Парэцкая царква // Слонімскі край, 2000, № 2, с. 25-52.*

*Эпісталярый*

# Анатоль Іверс: Павінен ехаць на месячныя курсы кіраўнікоў узрыўных работ...

*Лісты і паштоўкі слонімскага паэта да літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка*

Творчая спадчына слонімскага паэта Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско, 1912 — 1999) ужо часткова даследавана і выдадзена.[1] Аднак даследчую працу трэба працягваць. Паэту жылося няпроста. Доўгі час не прызнавалі антыфашысцкую арганізацыю, якой ён кіраваў, звальнялі з працы, даводзілася працаваць у лесе, карчаваць пні і ездзіць на курсы "падрыўнікоў". Але Іван Дарафеевіч усё вытрымаў. Падтрымліваў яго ў цяжкія часы літаратуразнавец Уладзімір Калеснік (1922 — 1994), які жыў у Брэсце.

"Для мяне Валодзя быў не толькі шчырым сябром, але нейчым большым, — пісаў Анатоль Іверс удаве Калесніка ў снежні 1994 года. — Гэта Ён, нягледзячы на варожныя паклёпы адносна маёй асобы, выцягваў мяне са штучнага балота, падымаў на вышыню ў сваіх літаратуразнаўчых, вядома, праўдзівых творах. Век не забуду".[2]

У паперах Уладзіміра Калесніка ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ф. 161, в. 2, спр. 264) захаваліся лісты і паштоўкі Анатоля Іверса, якія ён дасылаў у 1966-1987 гадах. Частку з іх прапаноўваю ўвазе чытачоў "СК". Яны друкуюцца ўпершыню.

**Сяргей Ёрш**

***

Добры дзень,

Уладзімір Андрэевіч!

Рад далажыць табе, што я атрымаў з Мінска "Сцягі і паходні".[3] Кніжка зрабіла на мяне моцнае ўражанне, яна змястоўная і добра выдадзена. Дзякую за цёплую, ці лепш сказаць за гарачую ацэнку маіх твораў. Рад таксама, што і я крыху дапамог табе фатаграфіяй і артыкулам пра Гальяша Леўчыка.[4] Толькі мала змешчана яго вершаў у зборніку.



Анатоль Іверс

Усе мае сябры ў Слоніме таксама задаволены з кніжкі. А рэдакцыя раённай газеты, як бачыш, нават змясціла літаратурную старонку.[5] Газету са старонкай высылаю табе на памяць, каб і ты яшчэ раз парадаваўся нашым поспехам.

Наступнае пісьмо напішу, магчыма, з Мінска. З лютага туды я павінен ехаць на месячныя курсы кіраўнікоў узрыўных работ па карчоўцы пнёў.[6] А пакуль што — бывай! Прывітанні ад нас вашаму сямейнаму калектыву.

Анатоль Іверс

30 студзеня, 1966 г.

*БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 1. Ліст, рукапіс.*

Дарагі Уладзімір Андрэевіч!

Віншую цябе і Зосю[7] з Новым, 1967 годам! Жадаю моцнага здароўя, многа шчасця і ўсяго найлепшага. Часта ўспамінаю Брэст, вашу гасціннасць.

Нядаўна паслаў заяву ў выдавецтва наконт зборніка.[8] Ніяк не напішу на машынцы матэрыял. І яшчэ не вырашана самае галоўнае — каго прасіць і хто мог бы быць рэдактарам. З надзеяй паглядаю на цябе. Пісьні мне сваю думку.

Яшчэ раз прыміце самыя найлепшыя пажаданні.

А. Іверс

30/XII [1966 г.]

*БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 4. Паштоўка, рукапіс.*

Дарагі мой дружа

Уладзімір Андрэевіч!

Яшчэ ў сакавіку бягучага года я адаслаў свой зборнік у выдавецтва "Беларусь". Потым атрымаў адказ ад А. Бажко[9], што зборнік уключан на 1970 год [у план выдавецтва]. А. Бажко паведаміў таксама, што кнігу на рэдагаванне мяркуюць аддаць табе. Гэта было б вельмі добра.

У ліпені і жніўні мне давялося пабываць у Мінску (мне баляць вочы, прыязджаў да ўрача). Вядома, зайшоў і ў выдавецтва, гутарыў з Бажком напярэдадні яго адыходу ў рэдакцыю "ЛіМа". Мне не спадабалася яго размова хоць бы і за тое, што ён navaліўся на Янку Брыля[10], якога я не магу ставіць у ніякае параўнанне з Алесем. Закралася трывога і за будучы мой зборнік, бо, маўляў, хоць Бажко пераходзіць у "ЛіМ", але ўплывы вялікія мае ў выдавецтве.

Гутарыў я і з Янкам, калі ён вярнуўся з Дзятлаўскага раёна. Янка мяне запэўніў, што ўсё будзе добра. Ён таксама за тое, каб ты рэдагаваў зборнік.

Даражэнькі Валодзя! Прашу цябе быць рэдактарам.

Да пабачэння. Прывітанне жонцы.

А. Іверс

8.IX. [19]68.

*БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 5. Ліст, рукапіс.*

Добры дзень, Валодзя!

Учора ноччу прачытаў тваё пісьмо, прыехаўшы з III з'езда Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, дзе я быў дэлегатам (са студзеня 1976 года працую адказным сакратаром Слонімскага раённага аддзялення Таварыства). І вось выконваю тваю просьбу — высылаю адзіны фотаздымак Г. Леўчыка, які ў мяне яшчэ быў. Гляджу я на гэты здымак і бачу, што тут патрэбна рэтушоўка... Калі зможаш вярнуць картачку, то вярні, можа і мне будзе патрэбна.

Я вельмі рад, што выпускаеш новую кнігу, ды яшчэ са здымкам нашага земляка. Выхаду кожнай добрай беларускай кнігі я буду дапамагаць, чым толькі змагу. Твае ж літаратуразнаўчыя творы чытаюцца з вялікай цікавасцю. Як выйдзе кніга, прышлі мне. "Зорны спеў" у Слонім не прыбыў. Ледзь дастаў яго ў Гродне.

Усё. Бывай! Прывітанне жонцы.

А. Іверс

27.XI. 1976 г.

*БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 15. Ліст, рукапіс.*

Паважаны

Уладзімір Андрэевіч!

Даўно мы не перапісваліся. Сёння рашыў напісаць табе кароценькі ліст, хоць думаў зрабіць гэта раней. Хочацца паведаміць, што напярэдадні 60-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі нашу Папярочную вуліцу перайменавалі ў вуліцу Івана Якаўлевіча Дабрыяна. Паколькі ты добра яго ведаеш, а я ўспамінаю нашу з табой і Янкам Брылём паездку ў яго калгас, то высылаю табе на памяць паэму "Вуліца Івана Дабрыяна", якую я напісаў. Адразу не мог прывыкнуць, што наша вуліца не так называецца. А з другога боку хваляваў Іван Якаўлевіч, якога я заўсёды ўважаў, паважаў.

Рукапіс паэмы я паслаў у "Полымя", адказу чамусьці не даюць.



*Уладзімір Калеснік*

Жыву памалюсеньку, крыху пішу вершы, працую адказным сакратаром раённай арганізацыі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Твае апошняе кніжкі яшчэ не бачыў, няма ў Слоніме і невядома калі будзе. Папярэдняй таксама не было, але я купіў у Гродне.

Бывай здароў! Прывітанне жонцы!

А. Іверс

5 сакавіка 1978 г.

*БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 17. Ліст, рукапіс.*

1. Сяргей Чыгрын уклаў і выдаў тры кнігі: Іверс А. Аўсяныя росы. — Мінск: Кнігазбор, 2011; Іверс А. З глыбінь жыцця. — Мінск: Кнігазбор, 2012; Жыццё і творчасць Анатоля Іверса. — Мінск: Кнігазбор, 2012.
2. БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 264, арк. 25.
3. Калектыўны зборнік "Сцягі і паходні" (Мінск, 1965), у які ўкладальнік Уладзімір Калеснік уключыў творы заходнебеларускіх паэтаў, а сярод іх і Анатоля Іверса.
4. Гальяш Леўчык (Ляўковіч, 1880 — 1944), слонімскі паэт, краязнавец, перакладчык.
5. Маецца на ўвазе "Літаратурная старонка" ў слонімскай раённай газеце "За перамогу камунізма" ад 29 студзеня 1966 года. Яна змяшчала артыкул Васіля Супруна "Рэха змагання. Да выхаду ў свет зборніка вершаў паэтаў былой Заходняй Беларусі "Сцягі і паходні", а таксама дзясятак вершаў слонімцаў, якія былі апублікаваныя ў згаданай кнізе. У літстаронцы былі апублікаваныя пяць вершаў Анатоля Іверса — "Вёска" (1933), "На этапнай дарозе" (1936), "Аганёк" (1943), "З чужыны" (1937), "Слонім — мой родны горад" (1960).
6. Пасля звальнення з пасады сакратара гарвыканкама, Іван Міско з дапамогай сябра змог уладкавацца толькі ў Баранавіцкі хімлясгас, пазней працаваў на яго слонімскім вытворчым участку. Аднак у тым жа 1966 г. зноў уладкаваўся на працу ў рэдакцыю слонімскай раённай газеты. Гл.: Жыццё і творчасць Анатоля Іверса: успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі /укладальнік С. Чыгрын/. — Мінск: Кнігазбор, 2012, с. 16-17.
7. Соф'я Міхайлаўна Калеснік, жонка Уладзіміра Андрэевіча.
8. Маецца на ўвазе кніга "З пройдзеных дарог", якая выйшла ў Мінску ў 1970 годзе. Гэта быў другі зборнік паэта, які з'явіўся пасля першага праз 31 год.
9. Алесь Бажко (1918 —2013), беларускі пісьменнік, паэт. У першыя пасляваенныя гады дапамагаў органам савецкай дзяржбяспекі выкрываць і ліквідоўваць падпольныя беларускія арганізацыі. З 1962 г. быў загадчыкам рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва "Беларусь". У 1970 г. стаў намеснікам галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва".
10. Янка Брыль (1917 — 2006) — народны пісьменнік Беларусі, удзельнік антыфашысцкага партызанскага руху. У адной з запісных кніжак Ул. Калесніка за 1966 год занатаваныя словы Янкі Брыля пра Бажко: "...ён рашыў, што можна са мной расправіцца. ...верны слуга органаў, атрымаў выхаванне. Яшчэ ў 1949 годзе ён паказваў мне пісталет і сам гаварыў, што супрацоўнічае. А сутычка са мною пачалася не з рамана ["Птушкі і гнёзды"], а з "Роздуму і слова". Знялі два артыкулы пасля цэнзары" (БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 228, арк. 28 адв.).

## *Краязнаўчая хроніка*

## *Юбілей "Краяведайкі"*

У красавіку ў Слонімскай гарадской дзіцячай бібліятэцы адбылося чарговае пасяджэнне літаратурна-краязнаўчай гасцёўні «Краяведайкі» пад назвай «Знакамітым землякам прысвячаецца». Прысутнічалі ўдзельнікі клуба-вучні 7-х класаў 1-й гімназіі і настаўніца гісторыі СШ № 3 Таццяна Славінская. Адзначым, што клуб «Краяведайкі» існуе з 1996 года. Сёлета яму спаўняецца 20 гадоў.

**1 траўня** 1931 года ў Слоніме нарадзіўся Алег Лойка, паэт, пісьменнік, літаратуразнавец. Памёр 19 лістапада 2008 г., пахаваны на слонімскіх гарадскіх могілках.

На першатравеньскае свята 1962 г. пайшла ў эфір першая перадача слонімскага радыёвяшчання. У далейшым яна выходзіла двойчы на тыдзень — у аўторкі і пятніцы ў 8.20 раніцы.



**2 траўня** 1935 г. у в. Варонічы Слонімскага раёна нарадзіўся Мікалай Аляхновіч, вядомы беларускі фізік, доктар навук, акадэмік Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Жыве ў Мінску.

**6 траўня** 1928 г. у вёсцы Сяргеевічы Слонімскага раёна нарадзіўся Вася Крайні, удзельнік антыфашысцкага партызанскага руху. Прыкрываў адыход таварышаў, быў цяжка паранены, памёр у турме ў студзені 1944 года. Яго імем названая вуліца ў цэнтры Слоніма.

**9 траўня** 1934 года ў Ганцавічах нарадзіўся Міхаіл Рылко, журналіст і краязнаўца, большая частка жыцця якога звязана са Слонімам. Памёр 5 студзеня 2012 г. На жаль, яго этнаграфічны музей-майстэрню “Беларускае мястэчка” ў нашым горадзе захаваць не ўдалося.

**15 траўня** 1912 г. у вёсцы Чамяры нарадзіўся Іван Міско (паэт Анатоль Іверс).

Памёр 26 кастрычніка 1999 года, пахаваны на Ружанскіх могілках.

**20 траўня** — традыцыйнае свята Жыровіцкай іконы Маці Божай.

*Каляндар*

## Травень



**20 траўня** 1988 года афіцыйна перастала існаваць вёска Гумнішча Азярніцкага сельсавета.



**22 траўня** 1948 года ў в. Дзераўная нарадзіўся Мікола Бушчык, вядомы беларускі мастак. Жыве ў Мінску.

**25 траўня** 1881 г. у Слоніме адбыўся буйны пажар. Былі знішчаныя амаль 600 дамоў на Рыбацкай, Студэнцкай, Гандлёвай, Ружанскай, Жыровіцкай, Школьны Двор ды іншых вуліцах. Пасля пажару горад нанава адбудавалі.



**25 траўня** 1905 года ў Казлоўшчыне (цяпер — Дзятлаўскі раён) нарадзіўся Сяргей Сіняк (паэт Сяргей Хмара), жыццё якога цесна звязана са Слонімшчынай. Памёр 5 верасня 1992 г. у Канадзе.

**26 траўня** 1522 г. староста слонімскі Ян Мікалай Радзівіл выдаў “Уставу павіннасці мяшчан слонімскіх”. Галоўным заняткам гараджан у той час была сельская гаспадарка.



**31 траўня** 1800 года ў Варшаве памёр Міхал Казімір Агінскі, слонімскі староста, гетман Вялікага княства Літоўскага, стваральнік у Слоніме опернага тэатру, капэлы, балетнай школы, друкарні, мануфактур.

*Слонімцы ў свеце*

## *Станіслаў Гаргалеўскі*



23 красавіка 2011 года ў Торуні ў Польшчы памёр прафесар Станіслаў Гаргалеўскі, вядомы польскі фізік і астраном. Ён — наш зямляк. Гаргалеўскі нарадзіўся ў Слоніме 19 кастрычніка 1926 года. У Польшчу выехаў падчас Другой сусветнай вайны, зрабіў там выдатную кар’еру навукоўца. Яго называюць “бацькам польскай радыёастраноміі”.

**С. Ё.**

*Рэдакцыя бюлетэня “Слонімскі край” заклікае да супрацоўніцтва краязнаўцаў, даследчыкаў гісторыі Слонімшчыны. Чакаем вашых матэрыялаў. Кожны слонімец, дзе б ён не жыў, можа падзяліцца на старонках нашага выдання сваімі разважаннямі, успамінамі пра сваю малую радзіму.*

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры передруку спасылка на СК абавязковая
Наклад 100 асобнікаў

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык
Сяргей Ёрш
(рэдактар нумару)
Сяргей Чыгрын